

Рак - сярэднявечны герб Радуні

Расьлі авёс, ячмень і грэчка,
жыло утульнае мястэчка...

# Мястэчка

№ 10 ПЕРШАЯ МЕСТАЧКОВАЯ ГАЗЭТА НА БЕЛАРУСІ САКАВІК 2000 г.

## Алесь Сакалоў

### ШЭДЭЎР

*Я з новай кнігай да сьвітаньня,*
*На кухні ўчора прасядзеў.*
*Гартаў старонкі з хваляваньнем,*
*Абнюхаў тэкст, зьлізаў і зьеў.*

*І шчыра выказаў прызнаньне:*
*- Мне замяніла кніга хлеб!*
*Сьвіньня зарохкала ўраньні.*
*Уголас бег чытаць у хлеў!*

*Уадказ: "Хру-хру, хрусьня ўсё гэта!"*
*Зазьвячыў хрушку таўкачом!*
*І зноў засеў за твор Паэта,*
*Кабета зь дзецьмі – за плячом.*

*Прымі, Наш Аўтар, віншаваньні!*
*Няхай пракрочаць у кожны дом*
*"Ачырыдныя абішчаньня".*
*(750-ты том).*

### НОВАЯ АХВЯРА.

*(байка)*

*Граф Пустазвонаў неяк летам*
*Да папуасаў завітаў,*
*Закінуўшы ў сваю карэту*
*Увесь наяўны капітал:*
*(Мяхоў шэсьць грошай папяровых,*
*Сабраных за кароткі час).*
*Прыехаў, выступіў з прамовай,*
*Туземцаў запісаў у калгас.*
*На рынку ўбачыў ананас,*
*Купіў раськідаўшы ўсе грошы,*
*Да хаты ехаць загадаў.*
*Удожджж, з парасонам і ў галёшах*
*Граф аб'явіўся ў Драздах .*
*(Авацый бура – проста жах!)*
*Граф загадаў сабрацца ў стайні,*
*Прыбеглі слугі з усіх ног.*
*Халуй Зюмоўскі бег астатнім,*
*Сьпяшаўся пасьля лоўлі блох.*
*Аркест зайграў:"Віват, наш фюрэр!"*
*(За дырыжора Шэйман быў).*
*Затупаў граф: "Спыніся, дурань!"*
*І сакваяж хутчэй адкрыў.*
*Тут затаілі ўсе дахаьне,*
*Каб добра чуці новы Ўказ,*
*А Пустазвонаў з хваляваньнем*
*Дастаў з партфеля...ананас.*
*Пачаў бліскучую прамову*
*(Гадзін граф восем выступаў),*
*Успомніў "ушывых блох" і "мову",*
*Гучаў у голасе мэтал:*
*"Жыць будзем трудна, но нідолга!*
*Нясіце дзеньгі на абшчак!*
*Ня то – дубінкаю ў пятак!*
*Ліш ананас спасёт усех нас!*
*Пасадка – заўтра, а праполка*
*Чэраз нідзелю! У добра час!*
*Німедля ўсе на агароды!*
*Сіводня падпішу Указ!*
*Картошку выбрасьця із моды,*
*Ведзь цар прыроды – ананас!*
*Скажыце, што жа в том плахова,*
*Што вас ташчу ізь нішчаты ?"*
*Раптоўна скончана прамова.*
*Далі ўсе слугі лататы,*
*Бо ў хлеў галодная карова,*
*Прыпёрлась,зьнесшы ўсе платы.*
*І зжэрла, Шкоднае стварэньне,*
*Гасцініц новы за імгненьне.*
*Рагуля, круцячы хвастом,*
*Кранула графа капытом:*
*(Мо ў пана знойдзецца дабаўка)*
*Заенчыў Пустазвонаў : "П'яўка!"*
*І тварам прама ў гной – бабах,*
*Самлеў высакародны граф.*
*(Капут рэформам усім і крах,*
*Валютны фонд маўчыць, о жах!)*
*Ці пакараюць хоць скаціну*
*За людажэрны апетыт?*
*Як знойдуць добрую хлудзіну,*
*Тады пакажуць моц і спрыт!*
*(Шчэ дачакаецца бандыт).*

## Сяржук Супрановіч

* * *

*Што з краінай робіцца?*
*Хіба ўсе паснулі?*
*Нашу Маці - Беларусь*
*Пад Маскву сьпіхнулі.*

*Абудзіся, гэй, народ!*
*Дзе ж ты апынуўся?*
*Ты і так ужо шмат год*
*На чужынцаў гнуўся*

*Хіба лепш нясьмелым быць*
*У чужой хаціне?*
*Чым у роднай хаце жыць,*
*На сваім гасьцінцы!*

*(в.Юрэлі, студэнт Віленскага Пэдагагічнага Ўніверсытэту)*

## ПАВАЖАНЫ ЧЫТАЧ

Вы тымаеце ў руках дзесяты (фактчына адзінаццаты) нумар "Мястэчка". Выказваю сардэчную ўдзячнасьць усім Асобам, якія далучыліся да стварэньня выданьня і распаўсюджваньня "Мястэчка".

Некалькі разоў друкаваліся Алесь Сакалоў, Генадзь Віткоўскі, Юзаф Кірвель, Іван Піскун (Радунь), Зыгмунд Дзікевіч (Пеньцінішкі), Генрык Даржынкевіч (Канвелішкі). Зьяўляліся творы і артыкулы Валера Хаміцкага, Тадэвуша Струхоўскага, Івана Фясенкі, Алены Амбражук (Радунь), Аляксандра Сямашкі (Гіркі), Анны Энгэлькінг (Варанова), Хэнрыка Бенкевіча (Кракаў), Ёнаса Матулявічуса (Пеляса), Алены Орпік (Варанова) і іншых.

Асабліва ўдзячны за распаўсюджаньне выданьня Казіміру Місюра, Ігару Місюра, Антону Барысевічу, Іне Барысевіч, Станіславу Чэпіку (з Варанова), Станіславу Станіслававічу Леўшыку, Тадэвушу Антонавічу Масюкевічу, Івану Іосіфавічу Капіцу, Андрэю Пушкісу (вучню 11 класа СШ №1), а таксама сп.Валянціну (з Радуні), работнікам Радуньскіх энэргасетак , Генадзю Боланьдзю (з Старой Казакоўшчыны), Уладзіславу Радзевічу (з Віганцаў), Ёнасу Матулявічасу (зь Пелясы) і дзесяткам іншых асобаў. Ня гледзячы на атмасфэру запалохваньня й спробаў нагнятаньня афіцыйнага псыхозу ў грамадзтве, людзі цягнуцца да вольнага, непадцэнзурнага слова. І гэта цалкам натуральна!

Дзякую за падтрымку! Словам, справамі, учынкамі!

Асноўныя задачы выданьня:

- праўдзівае інфармаваньне людзей аб падзеях у мястэчку, раёне, краіне;
- інфармацыйнае адлюстраваньне дзейнасьці дэмакратычных пазаўрадавых арганізацыяў (трэцяга сэктару) у раёне: палітычных, культурова-асьветніцкіх, рэлігійных;
- садзейнічаньне ўтварэньню новых пазаўрадавых арганізацый, іх павелічэньню, а таксама пашырэньню ўплыву на грамадзкую думку.

*Укладальнік.*





# БЕЛАРУСКІЯ ГІМНЫ.

Гімны нацыі, дзяржавы, краіны пішуцца, як вядома, не па заказу, а самой гісторыяй. Прытым сам факт зьяўленьня гімну можа быць выпадковай падзеяй, неадпаведным вершам і мэлёдыяй, але, трапіўшы ў гістарычны кантэкст народа, яны становяцца яго гімнам.

Вядомая, напрыклад, гісторыя французскай салдацкай песьні Марсэльеза, што стала дзяржаўным гімнам Францыі, ці мазуркі "Ешчэ Польска не згінэла", якая стала ў 1918 годзе дзяржаўным гімнам Польшчы.

Дзяржаўны заказ на стварэньне гімну ёсьць блюзьнерства. Што з гэтага атрымліваецца, добра відаць на прыкладзе гімнаў СССР і так званых "рэспублік свабодных". Гімны найчасьцей ствараюцца ў барацьбе за нацыянальна-культурнае, дзяржаўнае і духоўнае Адраджэньне нацыі і выбіраюцца народам, які змагаецца за сваю волю і лепшую долю.

У пачатку XX стагодзьдзя гімнам беларускага Адраджэньня найчасьцей гучаў верш Я.Купалы "А хто там ідзе..." на музыку Людаміра Рагоўскага. Ён так і называўся "Беларускі гімн".

Пазьней пасьля ўтварэньня Беларускае Народнае Рэспублікі, ужо ў 20-х гадах, шырока распаўсюдзіўся гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" паводле верша Макара Краўцова, напісанага ў 1919 годзе (муз. Ул.Тэраўскага). ён стаў гімнам Беларускае Народнае Рэспублікі. Яго сьпявалі паўсюдна змагары ў Заходняе Беларусі, потым ён гучаў у часы Другой Сусьветнай вайны і цяпер гучыць ва ўсім сьвеце, дзе жывуць беларусы, якія памятаюць пра Бацькаўшчыну.

З часоў Другой Сусьветнай вайны, падзеі якой стымулявалі беларускае нацыянальнае Адраджэньне, паўсюдна гучыць побач з гімнам БНР беларускі духоўны гімн "Магутны Божа". Гэта знакаміты верш Натальлі Арсеньневай (муз. М.Равенскага). надзвычай велічная ўзьнёслая і ўрачыстая мэлёдыя і зьмест гімна гучаць паўсюдна, дзе ладзяцца беларускія нацыянальна-культурніцкія мерапрыемствы. Прытым часта ўсё пачынаецца дзяржаўным гімнам БНР, а заканчваецца духоўным гімнам нацыі – "Магутны Божа". Рэлігійныя службы ва ўсіх беларускіх цэрквах Амэрыкі, Канады. Аўстраліі, Вялікай Брытаніі завяршаюцца сьпевам "Магутны Божа".

Склалася добрая і прыгожая традыцыя. Беларуская нацыя мае два гімны – дзяржаўны і духоўны. Кожны заняў сваё месца. Кожны сьпяваецца ў сваім часе. Кожны адлюстроўвае нашу беларускую гісторыю, наш розум, нашую волю, наш дух, нашае беларускае сэрца. Мяркую, што кожны Беларус павінен ведаць свае гімны.

*Зянон Пазьняк*

# СУСТРЭЧА З МАСТАЦТВАМ

Зьмястоўную сустрэчы з мастацтвам наладзіў сваім лепшым вучням настаўнік Вараноўскай СШ – сп. Казімір Місюра 4 сакавіка. Група з 17 асобаў наведала выставачную залю ў м. Ліда. Там прадстаўлены творы графікажывапісца Валянціны Іванаўны Ціхановіч, а таксама лепшыя работы яе выхаванцаў – вучняў мастацкай школы м. Баранавічы. Прозьвішча гэтай мастачкі вядома далёка за межамі Беларусі. Спадзяюся, што яго ўжо будуць ведаць і тыя нямногія, хто пазнаёміўся зь яе творамі і ў гэты дзень.

Добра і тое, што наведвальнікі выставы паралельна прысутнічалі і яшчэ на адным мерапрыемстве, якое праводзілася ў тых жа сьценах у той жа час.

Лідзкі гурт "Нэма" даваў свой канцэрт. Кантрабас, гітара, флейта, аўтарскае чытаньне вершаў, песьні без фанаграмы ў выкананьні адмыслоўцаў – усё гэта пашанцавала ўбачыць і пачуць нашым вучням.

Вось выказваньні некаторых экскурсантаў:

**Павал Ч.**

Маё сэрца напоўнена страсьцю да маляваньня. Уражаньне ад экскурсіі я запомню надоўга. Больш за ўсё мне спадабаліся творы пэнсіянера зь Ліды. Зробленыя прыроднымі фарбамі: глінай, пяском, зямлёй, карэньнямі раслін. Тры карціны В.Ціхановіч, напісаныя простым алоўкам з акна электрычкі, яшчэ і сёньня стаяць перад маімі вачыма.

**Іра З.**

Мне больш за ўсё спадабаліся карціны, зробленыя дзецьмі і прыроднымі фарбамі. Каб іх зразумець, трэба доўга каля іх пастаяць і падумаць.

**Дзіма Б.**

Мне цяжка ўявіць, як можна 5-7 штрыхамі напісаць партрэт. У мяне пакуль нічога не атрымліваецца.

**Дыяна К.**

Я ўпэўнена, што ў выставачнай зале буду бываць цяпер часта. Там змагу ўбачыць што-небудзь новае і цікавае для сябе.

Спадзяюся, што гэта не апошняе, зладжанае сп. Місюрам К.А. мерапрыемства. Помніцца, што яшчэ раней, 24 кастрычніка 1999г., ня меньш удалай была паездка таксама шматлікай групы нашых землякоў на радзіму братоў Каліноўскіх. Як высьвятлілася, тыя падзеі з-за даўнасьці часу яшчэ ня сьцёрліся з памяці ў тых, хто прымаў у іх удзел. Добрым напамінам аб іх служыць стос фатаграфій і відэафільм, зроблены сп. Юрасём.

А паглядзець і ўспомніць ёсьць што.

Па-першае, адныя імёны гасьцей з Менску й Горадні шмат аб чым гавораць: Лявон Баршчэўскі, Уладзімер Арлоў, Данута Бічэль-Загнетава, Віктар Шалкевіч, Кася Камоцкая, Андрэй Мельнікаў.

Па-другое, калёна аўтамашын і мноства людзей над бел-чырвона-белымі сьцягамі, што разьяжджалі па раёну ў суправаджэньні міліцыі ад в.Якушоўка да мястэчка Сьвіслач, людны жалобны мітынг ля магілы Віктара Каліноўскага, брата ўсім вядомага Кастуся. Аб тым, як мінуюць улады нашу гісторыю, сьведчаць зарасьнікі крапівы і чартапалоху на месцы дому, дзе прайшло дзяцінства нацыянальнага героя. Новы крыж, узьведзены побач у гэты дзень сіламі мясцовай арганізацыі БНФ, дае надзею на тое, што жыхары в.Якушоўка яшчэ ня раз з гонарам, а не хаваючы вочы долу ад няёмкасьці, будуць сустракаць гасьцей, што пажадаюць пазнаёміцца з радзімай К.Каліноўскага.

Па-трэцяе, і самае незабыўнае, – гэта атмасфэра таварыскасьці ля вогнішча на лясной палянцы, шашлыкі і песьні пад гітару нашых любімых бардаў: Віктара Шалкевіча, Касі Камоцкай, Андрэя Мельнікава. Атмасфэра згоды і паразуменьня паміж аднадумцамі дае зараз упэўненасьці ў тым, што ня ўсё так дрэнна ў нашай забытай Богам і цывілізаваным сьветам Беларусі. Ёсьць людзі не абыякавыя да памяці нашых слаўных продкаў, да будучыні Бацькаўшчыны. І калі ў БПСМ моладзь ідзе без пацьверджаньня бацькоў, па прымусу ці ў пагоні за паабяцанымі прывілеямі, то ў Беларускі Народны Фронт людзі прыходзяць сьвядома ні ў пошуках матэрыяльнай выгады.

І пакуль ня гледзячы на гэта, жыве ў грамадстве нацыянальная сьвядомасьць, будзе жыць Беларусь.

*Зінаіда Барысевіч, м. Баранова.*

# ЧАЛАВЕК І ЯГО ЛЁС







Перад 2000 годам Радунь пакінуў Алесь Мікалаевіч Сакалоў – выдатны чалавек, гісторык (скончыў гістфак БДУ, аднакурснік Уладзіміра Роўды), паэт (напісаў дзесяткі вершаў, некаторыя зь якіх увайшлі у зборнік "Чорнае сонца"), драматург (пісаў п'есы ў вершах, заснаваў у Радуньскім Доме Культуры паэтычны тэатр "Сьвітанак"), сябра Беларускага Народнага Фронту. Пакінуў мястэчка, відаць, назаўсёды.

У летку 1999года Спадар Алесь Сакалоў дзеля таго каб папрацаваць у школе й зарабіць сабе большыя сродкі, бо ў сям'і сын і хворая дачка Гульнара, на лячэньне якой мусіў выдаткоўваць значныя грошы, вырашыў уладкавацца ў Пашкавіцкую няпоўнуў сярэднюю школу. Школу ўзначальвае шырока вядомы Намесьнік Старшыні Раённага аддзелу Саюзу палякаў Беларусі пан Юзаф Кірвель. Юзафу Юзафавічу патрэбны добрыя адмыслоўцы і згода была поўнаю, тым больш што мейсца настаўніка гісторыі вызвалілася. Аднак асаблівую "пільнасьць" праявіў таварыш Кашлей, на той час Старшыня Раённага Аддзелу Адукацыі, адмовіўшы Алесю Мікалаевічу ў працаўладкаваньні і, такім чынам, канчаткова "пасадзіўшы" бацьку двух дзяцей на стаўку ў Радунькім Доме Школьнікаў, якая аплочвалася, у дадатак ня густа.

На жаль Алесь Мікалаевіч – чалавек з залатой галавою, а не з залатымі рукамі, таму зарабляць сродкі для сям'і працуючы ў дадатак на розныя там "шабашках" ня змог. Ня бачачы ў Радуні й на Вараноўшчыне для сябе ніякіх пэрспэктываў – мусіў зьехаць на Магілёўшчыну да сваіх бацькоў.

Алесь Сакалоў быў асобаю ня толькі дэмакратычнага, але й беларускага нацыянальнага, незалежніцкага і адраджэнскага сьветапогляду. Ён вядомы сярод дэмакратычнай супольнасьці нашага краю, Лідчыны і Гарадзеншчыны як аўтар шэрагу вершаў і баек: "Таварышчы! Я очань шчасліф!", "Супэрмэн" і "Джыгіт" (дзе галоўны герой Лука Мудзішчаў, што жыў у маёнтку Гарадзішча), "Новая ахвяра".

Ці мог ён падабацца высокаму начальству? Напэўна, што быў як косьць у горле. Цалкам магчыма, што неўладкаваньне ў Пашкавіцкую БШ стала помстай інтэлектуалу за яго плённую творчасьць і дэсыдэнцкую дзейнасьць.

За дзесяць гадоў жыцьця й дзейнасьці ў Радуні Алесь Сакалоў напісаў дзесяткі вершаў, шмат п'ес у вершах. Таму, мы павінны ганарыцца тым, што менавіта ў Радуні жыў гэты таленавіцейшы, а разам з тым шчыры й прыхільны чалавек.

# Сымбаль нашай Бацькаўшчыны

Хто ня ўражваўся таленавітасьцю Валера Хаміцкага. Валер ня толькі гітарыст-самавучка, але й арыгінальны складальнік вершаў. Паэтам сябе не называе, бо лічыць, што гэта б выглядала нясьціпла, ды й афіцыйна ён ня мае сяброўства ў Зьвязе пісьменьнікаў, усенароднага прызнаньня, раскруткі ў СМІ. Аднак Валера характэрызуе высокая патрабавальнасьць да слова, сказу, знакаў прыпынку і іншых сродкаў выражэньня думкі.

Аднойчы ўлетку было вясельле. Дачка Мар'яна Сьвечкі выходзіла замуж. Вясельле як вясельле, каб залю не ўпрыгожваў велізарны крыж, які зіхацеў і пераліваўся так незвычайна, што вызваў у прысутных найвялікшую цікаўнасьць, Усім вядомыя каляровыя лямпачкі ад навагодняй ёлкі працуюць такім чынам, што крыж не мільгаціць як звычайная сьветамузыка, а зіхаціць так – што аж вантробы круціць (калі глядзець у цемры). Ніхто яшчэ ня бачыў такіх крыжоў.

Арыгінальную сьхему крыжа скастуяваў Хаміцкі Валер – шчыры патрыёт Беларусі. Таму дай Бог, каб у кожнай бажніцы зіхацелі й пераліваліся крыжы Валера Хаміцкага – сымбаль нашай Бацькаўшчыны!

**А.Чэмер**

## *НАЦЫЯНАЛІСТ*

*Цяпло.сінеюць, млеюць далі…*
*А я дрыжу, як зьвяўшы ліст, -*
*Мяне чужынцы аплявалі,*
*Крычаць: "Ты нацыяналіст!"*
*І брэшуць: "Продаёт свой край",*
*"Изменник ты и враг народа!"*
*"Міліцыя!.. Бяры, карай!.."*

*Але ж ніякаму я зброду*
*Нідзе, ніколі не служыў,*
*Трымаўся звычаю старога,*
*Сумленна працаваў і жыў!*
*Ня гукаў на людзей і Бога…*
*Я й пальцам не паварушыў,*
*Як Сталін мой народ душыў.*
*Маўчаў я нават і тады,*
*Як безбароды, малады*
*Прыпёрся балбатун да нас,*
*Забраў скаціну ў калгас…*
*Маўчаў я і тады, як з хаты*
*Людзей вялі ў Курапаты…*
*Чаму ж якісьці кар'ерыст*
*Дзярэцца: "Нацыяналіст!"?*

*Ды дзе ж міністр той, ці ўрад*
*Які ў нас лад навесьці можа?*
*Хто злыдняў выганіць назад –*
*Цапамады такому, Божа!..*
*Бо хутка восьмы год міне,*
*Як злыдні брэшуць на мяне…*

***(м.Варанова)***

**ДЖЫГІТ**

*Сьвінапас – Лука Мудзішчаў*
*Не паліў, ня піў вінішча,*
*Жыў у маёнтку Гарадзішча,*
*У пана Ельскага служыў.*
*Сваім мейсцам даражыў.*
*Выгнаў раз сьвіней на пашу*
*Майскім ранкам наш Лука,*
*І кухарку стрэў Наташу,*
*Перад ёю гапака,*
*Заскакаў, заўсьміхаўся*
*Усеславянскі сьвінапас,*
*Бо па вушы закахаўся.*
*Надыйшоў прызнаньня час:*
*„Ангел мой! Я абішчаю*
*На ручышчах Вас насіць,*
*Шчас на хрушке пакатаю,*
*Разрышыце прыгласіць!"*
*На сьвіньню Лука заскочыў:*
*„У Чубашыю нясі!"*
*А Наташа што? Рагоча:*
*„Не паеду на таксі!*
*Лепш прайдуся пехатою,*
*Выбачай, джыгіт Лука!"*
*А Мудзішчаў:„Чорт з табою!*
*Дабярусь адзін Пака!"*
*І сьвіньню як след прышпорыў,*
*Хутка зьнік джыгіт з вачэй.*
*Без нагляду статак – гора!*
*Пакідаць сьвіншак – сорам,*
*Пан крапівай апячэ!*
*Сталі сьвіньнь без нагляду*
*Злыя жарты вытвараць,*
*У маёнтак без дакладу*
*За хвілін прыбеглі пяць.*
*Патапталіся па градах,*
*Перарылі агарод.*
*А пасля такія гады*
*Павалілі панскі плот.*
*Бражкі выжлукцілі бочку,*
*У піўны залезлі склеп,*
*Пакусалі пана дочку,*
*І загналі жонку ў хлеў.*
*Ельскі моцна раззлаваўся,*
*Клікнуў слуг сваіх хутчэй,*
*І за сьвіньнямі ганяўся,*
*Біў дубінкай між вачэй.*
*Загнаў статак у балота,*
*Пратрымаў там сутак пяць,*
*Свой палац, абнесшы плотам,*
*Стаў Мудзішчава чакаць.*
*Той з Чубашы прымчаўся,*
*І прывёз драны халат,*
*Сьвінапас шчыра ўсьміхнуўся,*
*Ельскі грымнуў: „Сівалап!"*
*Уляпіўшы аплявуху,*
*Даў джыгіту бізуноў.*
*Увесь калгас стаяў і слухаў*
*Як Мудзішчаў біка роў,*
*І ўвесь час ён паўтараў:*
*„Снова Бора, ты не праў!*
*За абіду пакідаю*
*Наш таможэнный саюз!*
*Мая хата цяпер с краю,*
*Я пасьледствій не баюсь!"*
*Пан крычаў:„Прэч! Гультаішча!*
*Панімаеш, ты, чубаш!"*
*Уздоўж па вуліцы Мудзішчаў*
*Мчыць джыгіт славуты наш,*
*Мчыць па вуліцы Мудзішчаў*
*Без трусішчаў і штанішчаў,*
*Толькі вецер у вушах свішча,*
*Зад гарыць ад бізуноў:*
*„Прашчай, злое Гарадзішча,*
*- І праклятая службішча!*
*- Я ў Чубашыю пайшоў,*
*Буду пасьвіць там сланоў!"*

***Алесь Сакалоў.***



Мястэчка

# 25 сакавіка – Дзень Незалежнасьці

У гэты дзень у 1918 годзе Беларусь была абвешчана незалежнай рэспублікай. Беларускі народ ськінуў з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое было накінута расейскімі царамі на наш вольны калісь Край.

Беларусь, хутчэй за ўсё, і надалей засталася б расейскай геаграфічнай правінцыяй, а не нацыянальнай адзінкай, дзяржавай, каб ня ўпартая барацьба беларускіх нацыянальных партый і арганізацый. Вялікай Беларускай Рады і Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады. У сярэдзіне лістапада 1917 года яны выдалі адозву "Ко всему народу Белорусскому", дзе заклілі беларусаў узяць у свае рукі ініцыятыву кіраваньня Краем. Дзеля гэтага абвясьцілі аб скліканьні ў Менску зьезду прадстаўнікоў усяго беларускага народу.

15-18 сьнежня 1917г. (па ст.календару) быў скліканы Першы Усебеларускі Кангрэс з 1872 дэлегатамі з усяе беларускае тэрыторыі. Ён абвясьціў заснаваньне Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). Бальшавікі варожа аднесліся да гэтага акту і спрабавалі разагнаць кангрэс збройнай сілай. Але 18 сьнежня Кангрэс закончыў сваю працу, перадаўшы паўнамоцтвы Выканаўчаму Камітэту, які стаў носьбітам сьцверджанай волі беларускага народа.

Пасьля мірных перамоў у Берасьці 19 лютага 1918г. бальшавікі ў паніцы пакінулі Менск. Вызваленныя з бальшавіцкай вязьніцы сябры Рады БНР В.Захарка, К.Езавітаў, Я.Мамонька узяліся за арганізацыю беларускай улады.

21 лютага была апублікавана Першая Устаноўчая Грамата, якая абвясьціла сваю ўладу на ўсёй Беларусі.

9 сакавіка 1918г. Другой Устаноўчай Граматай былі абвешчаны асновы Беларускай Канстытуцыі.

25 сакавіка Рада БНР Трэцяй Устаноўнай Граматай абвясьціла незалежную Беларускую Народную Рэспубліку.

Незалежнасьць БНР першай прызнала Украіна. Адразу ж былі наладжаны дыпляматычныя і эканамічна-гандлёвыя адносіны. Дыпляматычныя місіі БНР дзейнічалі ў Кіеве, Адэсе, Маскве, Вільні, Растове, Рызе, Таліне, Канстанцінопалі, Польшчы, Фінляндыі, Даніі, Францыі, Балгарыі, Берліне, Празе, стараючыся дабіцца прызнаньня незалежнасьці БНР.

Апрача Украіны, незалежнасьць БНР прызнавалі дэюрэ Фінляндыя, Эстонія, Летува, Латвія і Чэхія.

У маі 1918 г. беларуская дэлегацыя давяла да ведама савецкага ўраду факт стварэньня БНР і жаданьне яе заключэць з савецкім урадам дамову аб дзяржаўных межах. Перамовы закончыліся безвынікова. Савецкі ўрад не пайшоў на юрыдычнае прызнаньне БНР. Больш таго, баючыся, што сусьветная супольнасьць можа прызнаць БНР за незалежную дзяржаву, савецкі ўрад дамогся падпісаньня ў Берліне дадатковай умовы да Берасьцейскага трактату, на аснове якой немцы згадзіліся эвакуявацца зь Беларусі, басэйну Чорнага мора, Растова й часткі Данецкага басэйну, больш не занімаць тэрыторыі на ўсходзе і даць магчымасьць Савецкай Расеі доступу да Балтыцкага мора, спыніць падтрымку для замацаваньня новых незалежных дзяржаў, у першую чаргу БНР.

Тым ня меньш БНР і надалей праводзіла сваю дзейнасьць.

9 кастрычніка 1918г. быў прыняты новы статут аб павелічэньні асаблівага складу Рады да 100 асобаў і зьмене выканаўчай улады – Народнага Сакратарыяту – Радай Народных Міністраў.

8 сьнежня 1918г. бальшавікі занялі Менск. Урад БНР перанёсься ў Горадню.

6 студзеня 1919г. бальшавікі занялі Вільню і Заходнюю Беларусь.

27 лютага 1919г. абвешчана Савецкая Літоўска-Беларуская Рэспубліка (ЛітБел). Гэтым самым бальшавікі на практыцы выявілі вартасьць свайго лёзунгу аб самавызначэньні і самастанаўленьні ўсіх народаў Расеі аж да поўнага аддзяленьня. Лёзунг гэты, як і іншыя, быў толькі прапагандным сродкам для далейшых перамог.

Такім чынам, БНР – гэта першая справа адраджэньня беларускай дзяржаўнасьці. Зробленая беларускімі дзеячамі ў надзвычай складаных унутраных і зьнешніх абставінах.

*Зінаіда Барысевіч, м. Варанова*

# Сапраўдная памяць

У гонар слаўнага сына зямлі Беларускай Міколы Ермаловіча прысьвячаю

Твор Адама Рагоўскага (Абрашке Ківеса) "Боль і памяць" прачытаў зь вялікім задавальненьнем. У сваёй працы (даволі каштоўнай для радуньцаў) Адам Рагоўскі апісаў ня толькі ўласны лёс, а й гісторыю нашай роднай Радуні. Нельга скідваць з уліку, што ў тыя часы габрэі складалі значную частку насельніцтва мястэчка.

Зьвернемся крышку да гісторыі. Габрэі ўпершыню зьявіліся ў нашым краі яшчэ ў часы княжаньня Усяслава. Пазьней, у XIV ст., калі ў Заходняй Эўропе (Нямеччыне, Гішпаніі і інш.) пачаўся масавы перасьлед габрэяў, яны знайшлі прытулак у Вялікім Княстве Літоўскім. Іх першыя суполкі ўзьнiклі ў Берасьці і Горадні. З другой паловы XVI ст., пасьля інтэнсіўнай міграцыі зь Нямеччыны й Польшчы, габрэі пачалі займаць прыкметнае мейсца ў этнічнай структуры насельніцтва Беларусі.

У 1794 г., пасьля першага і другога падзелаў Рэчы Паспалітай, Расея вызначыла мяжу аселасьці габрэяў (дазволена сяліцца і на тэрыторыі Беларусі як памежнай).

На пярэдадні Першай Сусьветнай вайны габрэі складалі прыблізна 14% усяго насельніцтва Беларусі. Большасьць іх жыла ў местах і мястэчках (нярэдка іх тут было да 50-60%). У Радуні пражывала прыкладна 1200-1220 габрэяў.

Беларускія габрэі займаліся рамёствамі (толькі ў працы А.Рагоўскага іх налічваецца больш за 20), дробным прадпрымальніцтвам, ліхвярствам. Яны жылі замкнутымі тэрытарыяльнымі суполкамі – кагаламі.

За гады Другой Сусьветнай вайны у выніку фашыстоўскага генацыду загінула 300 тысяч беларускіх габрэяў. Паводле перапісу 1890 году ў Беларусі налічвалася 112 тыс. габрэяў – трошкі больш за 1% ад усяго насельніцтва (у Вараноўскім раёне – 6 чалавек). Працягваецца эміграцыя габрэяў з Рэспублікі Беларусь у Ізраіль, ЗША і іншыя краіны, і цяпер іх на Беларусі каля 40 тысяч.

Зразумела, што ў кожным творы можна знайсьці нейкія недахопы. Але гэты твор я чытаў не адрываючыся, бо Адам Рагоўскі падрабязна апісаў выгляд мястэчка, расслаеньне жыхароў.

Вельмі шмат увагі аўтар удзяліў апісаньню жыцьця і дзейнасьці Гавіса Гайма, які аказаў велізарнае ўзьдзеяньне на габрэйскае рэлігійнае вучэньне. Такой гістарычнай асобай трэба ганарыцца.

Дзякуючы гэтаму чалавеку Радунь наведалі маршалак Юзаф Пілсудскі і тагачасны Прэзыдэнт Польшчы Машчыцкі. Чытачы змогуць даведацца аб тым, колькі шкоды жыхарам нашай Радуні прынесьлі даволі частыя пажары. Але дзякуючы сумленнай узаемнай працы за кароткі тэрмін аднаўляліся жылыя і іншыя будынкі.

Цікава, што ў габрэйскай навучальнай установе – ешыве навучалася звыш 300 асобаў з усяго сьвету, што складала чвэрць габрэйскага насельніцтва Радуні.

Кірмаш у Радуні, як і ў цяперашні час, праводзіўся ў сераду. А ў кутку кірмашнага пляцу даваў прадстаўленьне мясцовы маленькі цырк. Ці ж гэта не цікава!

Чорнай старонкай у гісторыі нашай Бацькаўшчыны зьяўляецца стварэньне фашыстоўцамі гета. У Радуньскім гета знаходзілася 2200 габрэяў: 900 – з Радуні, астатнія – з навакольных населеных пунктаў.

10 траўня 1942 г., гітлераўцы жорстка расправіліся з габрэямі (2130 былі растраляны, зь іх – 850 з Радуні). 37 радуньцам пашчасьціла зьбегчы ў лес, дзе іх немцы ўжо не змаглі дастаць аўтаматнымі чэргамі. Казалі, быццам на месяцы расстрэлу, два-тры дні варушылася заплямленая крывёй зямля, бо не ўсе туды зваліліся мёртвымі. Стагнала, плакала зямелька-маці...

Пасьля заканчэньня вайны ў Беларусі працягваў сваё жыцьцё сталінскі рэпрэсіўны механізм. Шмат пакут, шмат расчараваньняў... Адам Рагоўскі – мужны сын зямлі беларускай, нязламаўся, не скарыўся. Свайго патрыёта маленькай Радзімы па найменьні Радунь, помніць наша мястэчка, ганарыцца ім.

Прачытайце кнігу. Твор А.Рагоўскага – сапраўдная памяць.

*Генадзь Віткоўскі, настаўнік гісторыі.*

## Лекары чытаюць"Прелюдию к бешенству"

Вялікі сход лекараў раёну зладзіла высокае лекарскае начальства. Аднак нехта прынёс на сход "Мястэчка" і пусьціў частку асобнікаў па шэрагах. Легендарная паэма вызвала жывы інтарэс у лекараў. Замест таго, каб слухаць прамовы, тыя актыўна чыталі твор, абмяркоўвалі смачны вобраз дэпутата-пчаляра. Сход лекараў выдаўся надзіва!

## Радуньская новая школа аб "Прелюдии к бешенству"

ВучнІ й настаўнікі Радуньскай СШ №2 за лічаныя хвіліны расхапілі сьвежы нумар "Мястэчка". Цэлы тыдзень абмяркоўвалі дзі восы пчаляра. Па словах Андрэя Пушкліса адзін вучань выказаўся ў тым сэнсе, што верыў, знойдуцца аўтары, якія апішуць увесь шлях пчаляра. Літаратурны вобраз стаў прадметам розных размоў, абмеркаваньняў і чутак.

## Пчаляр паехаў у Расею і Малдову

Ходзяць чуткі, што некалькі асобнікаў з тэкстам "Прелюдии..." грамадзяне Расеі і Малдовы павезьлі да сябе, а нейкі мянчук паабяцаў ледзь ня ўвесь Менск закідаць вядомым творам аддрукаваўшы яго ў выглядзе ўлётак.

### Радуньскія лекары супраць зьвязу з Расеяй

У Радуньскай лякарні мусілі праводзіць сход па абмеркаваньню зьвязу (саюзу) Беларусі з Расеяй. Замест дружнай падтрымкі атрымалі суцэльнае супраць. Кажуць, што "за" былі ўсяго... два лекары. Яшчэ ходзяць чуткі, што, відаць, у справаздачы ці то не напісалі зусім такі сумны для ўладаў вынік, ці то напісалі нешта іншае, невядома. Аднак лекары людзі настолькі адукаваныя, настолькі меньш за ўсё паддаюцца замбіраваньню афіцыйнай прапаганды й становішча ў галіне мэдыцыны такое, што амаль усё дорага, а многага не хапае ці ўвогуле няма. Інфляцыя за які-небудзь квартал зьядае сьціплыя дзяржаўныя сродкі, што маюцца ў гадавым бютжэце на ахову здароўя. Зарплата жабрацкая! Нялёгкая доля лекара! Чаму ж ён мусіць падтрымліваць афіцыйны курс, які ня мае ніякага лягічнага абгрунтаваньня?

## Ва ўсім павінны нашы дарогі

Нядаўна, пасьля новага года адмянілі рэйсавы аўтобус Горадня-Менск, на якім з Горадні ў Менск мелі магчымасьць дабірацца жыхары Астрына, Забалаці, Клайшаў, Радуні і іншых вёсак аж да Ліды. Адмянілі быццам бы з-за дрэннага стану дарог у Радуні.

Гэта вызвала абурэньне ў многіх жыхароў нашай мясцовасьці, бо больш паўсотні студэнтаў мелі магчымасьць рэгулярна ехаць у сталіцу. Хто нарэшце прывядзе ў належны стан дарогі Радуні?

## У лазьні – па-цыганску

Доўга лічылася, што размаўляць на цыганскай мове здольны выключна цыганы – даўнія жыхары Радуні. Аднойчы ў лазьні панеслася цыганская гамана з вуснаў аднаго вядомага беларускамоўнага паляка зь летувіскім прозьвішчам. Многія вачам сваім ня верылі – гаворыць... аж па-цыганску, прытым надзвычай хутка...

Жыве наш герой каля цыганоў, зь дзяцінства чуе цыганскую гаворку. Кажуць, што аднойчы цыганачкі шушукаліся аб сваіх дзявочых сакрэтах у адным грамадзкім мейсцы. Ніводная нават уцяміць не магла, што нехта іх зразумее. Тут зьявіўся наш стары знаёмы і ўставіў да тэмы некалькі трапных слаўцоў па-цыганску. Бедныя цыганачкі ад сораму кінуліся наўцёк. Інтым не схаваеш! Цікава, колькі ў Радуні і яе ваколіцах "белых" разумее і размаўляе па-цыганску?

## Дыпляматыя па-Вараноўску

Саюз палякаў у Вараноўскі Райвыканкам падаў заяўку на правядзеньне адмысловай акцыі на Дзень Сьвятога Валяньціна. На 15 лютага улады дыпляматычна акцыю не дазволілі, але й не забаранілі, папрасіўшы арганізатараў (у першую чаргу Антона Барысевіча) далучыцца да афіцыйнага сьвяткаваньня, якое было заплянавана на 13 лютага.

## Бел-чырвона-белае каханьне

Вараноўская суполка Маладога Фронту пад кіраўніцтвам Ігара Місюры своеасабліва адзначыла Дзень Сьвятога Валянціна. Сябры суполкі нарэзалі з паперы больш 200 бел-чырвона-белых сэрцаў, напісалі на кожным сэрцы выказваньні аб каханьні, ды раздалі вучням пераважна 10-11 клясаў Вараноўскай сярэдняй школы. Вучні зь вялікай ахвотаю бралі сэрцы, бо выказваньні мелі грамадзкі падтэкст. Расшыфраваць іх – справа інтэлекту.

## Павал Орпік аб Саюзе палякаў Беларусі на Вараноўшчыне

Старшыня Саюзу палякаў Беларусі на Вараноўшчыне пан Павал Орпік у тэлефоннай размове паведаміў, што ў нашым раёне 1257 асобаў зьяўляюцца сябрамі СПБ. Але праходзіць пераправерка шэрагаў сяброў, таму яшчэ аб дакладнай лічбе сяброў казаць рана. Суполкі СПБ дзейнічаюць у 13 буйнейшых цэнтрах: Варанове, Радуні, Беняконях, Канвеншках, Ёткішках, Жырмунах, Даўгялах, Пашкавічах, Салтанішках, Начы і іншых. У наш час адбываюцца або рыхтуюцца справаздачна-выбарныя сходы СПБ. Саюз Палякаў – буйнейшая пазаўрадавая дэмакратычная арганізацыя ў нашым краі.

## Людміла Шумская аб летувісах Вараноўшчыны.

Як паведаміла Старшыня Радуньскай суполкі летувісаў "Гітарас" ("Бурштын") сп.Людзьміла Шумская ейная грамадзкая арганізацыя была зарэгістравана ў лістападзе мінулага года, а ў пачатку 2000 годзе пастаўлена на ўлік у Варанове. Шчыра віншуем!

Больш таго, шэрагі мяйсцовых летувісаў растуць і налічваюць ужо каля паўсотні асобаў, столькі ж асобаў штонядзелю навучаюцца ў Радуньскай нядзельнай летувіскай школе. Заняткі прайходзяць у нядзелю з 11.00 у памяшканьні Радуньскай СШ №1 (у старым будынку).

Пеляскія ж летувісы аб'яднаныя ў суполку з паэтычнай назваю "Гімтыне! ("Радзіма").

## Дзе лямпачкі?

Як паведаміў Шэф радуньскіх камунальнікаў Валер Кучынскі дзеля асьвятленьня радуньскіх вуліцаў не хапае лямпачак, бо дзяржава выдзяляе іх мала, таму дай Бог асьвяціць ноччу, хоць самыя важныя прадпрыемствы, установы й месцы мястэчка.

## Цікавы дэпутат пранік да электрыкаў.

Электраманцёры Радуньскіх электрасетак доўга й нецярпліва чакалі чарговы нумар "Мястэчка". Хлопцы зь цікавасьцю чыталі аб бурнай дзейнасьці дэпутата пчаляра ў "Прелюдии..." Хтосьці трапна заўважыў, што хай лепш школьнікі напішуць сачыненьні на тэму "Вобраз дэпутата-пчаляра ў паэме "Прелюдия к бешенству", чым пішуць нейкую лухту.





# ІМПЭРЫЯ АЛЬБО ЭЎРОПА

***(Небясьпека рэжыму Лукашэнкі. Лёс Бацькаўшчыны. Спасаб ліквідацыі рэжыму)***

Кожнаму вядома, што рэжым які пануе на Беларусі – аўталітарна-таталітарны і каляніяльны.

Рэжым становіцца больш і больш таталітарным. Ужо пяць гадоў з паловай перасьледуюцца і зачыняюцца незалежныя сродкі масавай інфармацыі, парушаюцца фундамэнтальныя правы чалавека на свабоду думкі, сумленьня, перакананьняў, свабоду мірных сходаў, асацыяцыяў і г.д. У краіне сфарміраваўся культ асобы Лукашэнкі. Усе далейшыя "заслугі" Лукашэнкі ў справе ліквідацыі дэмакратычных інстытутаў на Беларусі Вы самі пералічыце.

Больш таго, рэжым імгненна страчвае рысы сваёй паўкаляніяльнасьці й становіцца ўсё больш і больш каляніяльным. У гэтым галоўная яго небясьпека!

За пяць апошніх гадоў шляхам псэўдарэфэрэндумаў "прынята" "новая" сымболіка: сьцяг і герб вонкава падобныя на бэсэсэраўскія. Нашы ж гістарычныя нацыянальныя і дзяржаўныя бел-чырвона-белы сьцяг і герб "Пагоня" ня толькі цалкам выведзеныя з афіцыйнага ўжытку, але й неафіцыйна забароненыя ў побытавым ужытку. За іх нашэньне можна быць зарыштаваным, збітым, пакараным і г.д.

Афіцыйнае "двумоўе" прывяло да фактычнага зьнікненьня роднай мовы зь дзяржаўнага ўжытку. За прыкладамі далёка ня пойдзем. Аднойчы ў Радуньскім банку я напісаў на блянку тэкст па-беларуску. Прапанавалі перапісаць па-іхняму, бо ў іх, бачыце, справаводства... Запратэставаў, але далі зразумець, што няма сэнсу. У якой іншай краіне Эўропы такое магчыма? Пытаньне рытарычнае!

Зьнікаюць беларускія клясы, школкі, садкі, яселькі. Афіцыйна – па "волі" бацькоў. Амаль уся тэкставая, аўдэа, відэаінфармацыя ў грамадзкіх мейсцах: на вуліцах местаў, мястэчак, вёсак, на прадпрыемствах, ва ўстановах у т.л. у крамах па-расейску. Вось яно "двумоўе" па-лукашэнску.

Даходзяць зьвесткі аб выпадках арышту людзей за тое, што яны гавораць па-беларуску. Скажаце фантастыка? Рэчаіснасьць! Яшчэ пяцьдзесят гадкоў такога "двумоўя" і наша прыгожая беларуская мова стане мёртваю.

А што ў тэлевізіі. Радыё, афіцыйнай прэсе? Там ужо пяць год як кожны дзень з раньня да вечару шчыруюць на ніве найхутчэйшай ліквідацыі Беларусі як незалежнай дзяржавы. Добрых чатырыпяць беларускіх каналаў (вядома ж цалкам беларускамоўных) на эўрапейскім узроўні ўлады не дадуць адчыніць, а той прымітыў, што выдаецца за Беларускую Тэлевізію, – пародыя на Беларускую Тэлевізію, якая (напэўна) існуе з мэтаю вызваць агіду ды нянавісьць да ўсяго беларускага. Дзень за днём рэжым дурыць людзям галавы ды "пудрыць мазгі" праз захопленныя гвалтам тэлевізію, радыё ды газэты аб еднасьці беларусаў з расейцамі і Беларусі з Расеяй, аб тым, што мы адзін народ, адна нацыя (этнас), аб мітычнай пагрозе для Беларусі Эўропы, Захаду, Польшчы, Нямеччыны, ЗША, НАТО, дэмакратыі, рынку і г.д.

Дзяўбуць як дзятлы, а сэнсу. Людзям ужо настолькі надакучыла гэта "трызьненьне сівой кабылы", што яго няма патрэбы камэнтаваць, бо бязглуздзіца ёсьць бязглуздзіцай, але...

Беларусь – не Расея, Беларусь – частка Эўропы. Расея – не Эўропа. Мы беларусы – нашчадкі сярэдневечных ліцьвінаў, самастойны народ, а не частка расейскага народу. Чым ліцьвіны (беларусы) адрозьніваюцца ад маскоўцаў (расейцаў)? Эўрапейскасьцю і працавітасьцю!

Мы ліцьвіны (беларусы) – народ глыбокіх эўрапейскіх каранёў і традыцыяў. Наша мэнтальнасьць, наша этнапсыхалёгія, наша этнакультура карэнным чынам розьняцца ад расейскай, бо цалкам эўрапейскія, а не эўразійскія ці, нават, азіяцкія, як у расейцаў.

Гісторыя нашай дзяржаўніцкай традыцыі (Полацкае княства, Смаленскае княства, Тураўскае княства, Вялікае княства Літоўскае, Рэч Паспалітая) сьведчыць аб нашай эўрапейскасьці. ВКЛ (напрыклад) было дзяржаваю эўрапейскіх храмаў і замкаў, Магдэбургскага права і шляхоцкіх вольнасьцяў, фактычна абмежаванай манархіі ды выдатна распрацаванай моўнай традыцыі з шматлікімі эўрапейскімі запазычаннасьцямі (друк, шпацыр, кампутар і г.д.). Ці маглі аб гэтым нават марыць жыхары Маскоўскай дзяржавы часоў Івана Жахлівага (Иван Грозный), дзе панавалі несусьветнае цемрашальства й дзікунства. (Успомніце зьмест фільму "Иван Васильевич меняет свою профессию"). Шкада што, продкі сёньняшніх расейцаў запазычылі сваю дзяржаўніцкую традыцыю ад мангола-татарскай арды (Ціпчацкае ханства).

Больш трохсот год нашы продкі стрымлівалі напаўазіяцкую Маскоўскую арду ў бясконцых войнах пры яе спробе экспансіі на Захад, аднак у канцы XVIII ст. у час падзелаў Рэчы Паспалітай Беларусь (разам зь Летувай) былі акупаваны й анексаваны маскоўцамі. Наш народ трапіў у найвялікшую цывілізацыйную катастрофу, гэта значыць з цывілізацыйнай Эўропы – у Азію.

Азіяцка-маскоўска-расейская арда за два стагодзьдзі акупацыі праводзіла палітыку зьнішчэньня ліцьвінаў (беларусаў) як этнасу (нацыі). Забаранілі нашу грэка-каталіцкую (вуніяцкую) рэлігію, насадзілі расейскі варыянт(!) праваслаўя з духоўным цэнтрам не ў Канстанцінопалі (патрыярхат), а ў Маскве. Ліцьвінскую (беларускую) мову таксама забаранілі, абвясьціўшы яе быццам бы непрыгожым дыялектам расейскай. Дзеля зрасейшчваньня (русіфікацыі) Краю засялілі яго соткамі тысячаў маскоўцаў-расейцаў (якія ў сваей большасьці былі калянізатарамі), няшчадна падаўляючы вызвольныя паўстаньні нашых вольналюбівых продкаў (Т. Касьцюшка, К.Каліноўскі ды многія іншыя).

У часы Савецкага Саюзу (канец 30-х гг.) беларускія інтэлектуалы адстрэльваліся дзесяткамі тысячаў, а на іх мейсца папрыцягваліся сотні тысячаў ня лепшых расейцаў, а прыблудаў з Расеі.

Аж да сёньня розныя саветы й саветкі нам трызвоняць, што яны нас "асвабадзілі". Ад чаго? Ад эўрапейскай пэрспэктывы, г.зн. магчымасьці жыць багата матэрыяльна й гарманічна духоўна. Прынесьлі ж яны нам атрыбуты сваёй расейскай каляніяльнай азіяччыны: "фуфайка", "валенки", "шапка-ушанка" і "много водки".

Татальная (усеагальная) русіфікацыя (50-80-я гады) на Беларусі суправаджалася канчатковай ліквідацыяй беларускай школы і культуры, акрамя яе вясковых побытава-фальклёрных элемэнтаў (беларусы – "кресты", "дзяроўня"). Яшчэ раней да Паспалітага ліцьвіна (беларуса) прыйшоў "великий и могучий русский язык" зь яго матам азіяцкага паходжаньня (у нашай мове ёсьць лаянка, але ня мат).

Галоўная прычына цывілізацыйнай адсталасьці Беларусі ад Маці-Эўропы – наступствы двухсотгадовай расейскай акупацыі. Гэту горкую праўду мы часьцей успрымаем на падсьвядомасьці, але так думаюць нашы бацькі і так думаем мы. Значыць, не з Расеяй мы мусім "інтэгравацца".

Галоўная наша агульна-нацыянальная задача – вяртаньне ў Эўропу. Туды, дзе вольнае і заможнае жыцьцё, дзе сярэднія зарплаты за эфэктыўную й выніковую працу больш 2000 $ за месяц, дзе тэлевізар, халадзільнік, відэа, легкавік, грузавік і кватэра ня лічацца багацьцем, бо даступныя 65-70% насельніцтва, дзе няма дабраахвотна-прымусовага зрасейшчваньня, дзе грамадзяне краін ганарацца не велічынёй тэрыторыі сваёй Бацькаўшчыны ды колькасьцю нуклярных (ядзерных) ракетаў, самі жывучы ў галечы (як у Расеі), а ўласным дабрабытам разам з багацьцем усяе супольнасьці дзяржавы.

Дзеля вяртаньня ў Эўропу мы мусім дамагчыся дэмакратычнасьці й незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны-Беларусі. Апошняе магчыма толькі шляхам мірнай (!) ліквідацыі сёньняшняга рэжыму. Кожны дзень кіраваньня гэта-



Мястэчка

*Паводле шматлікіх просьбаў нашых чытачоў мы яшчэ раз друкуем тэкст знакамітай паэмы "Прелюдия к бешенству".*

# Прелюдия к бешенству

1

Жил депутат – слуга народа,
Обычный выскочка, нахал.
Мечтал стать главным пчеловодом,
С трибуны часто выступал.
Имея выдумки богато,
С мужицкой, с виду, простотой
Для большинства электората
Как говорят: был парень свой.
Став популярным и известным,
Сумел он зависть распалить
Путём обманным и бесчестным,
Чтоб за народ борцом прослыть.
Дождавшись часа от фортуны
Не упустив свой лучший шанс,
Так за живые тронул струны,
Что вызвал нужный резонанс.
Тому, кто демагога слушал,
Слова его запали в душу.
" Того, кто крал - арестовать,
Коттеджи их конфисковать.
Их ждут судебные процессы,
А не прогулки в мерседесах.
Жульё - даю своё вам слово-
Народ не будет грабить снова!"
Пустив наживку эту в ход
И подкупив простой народ,
Он получил в награду власть,
Чтоб наслаждаться ею всласть.

2

Так вышел в лидеры народа
С цыганской примесью мужик,
Став самым главным пчеловодом,
Карьеру сделал в один миг.
Народ завистливый в ответ,
За ним идти готов был в след
В Россию за бесплатным сыром,
Избрав его своим кумиром.
Кукушка хвалит петуха
За то, что хвалит он кукушку
Хвалили, не боясь греха,
Народ и пчеловод друг дружку,
Нарушив заповедь Христа,
Что наказал Господь для мира,
Она сложна и так проста
Несотвори себе кумира.
В час смуты чтоб держать надежно
Народ обманутый в узде,
Клеймил врагов как только можно
И выход находил везде.
Волненья дабы успокоить
И на врагов народ настроить
Умел народу угодить
Где по-отцовски пожурить,
А где польстить ему в угоду
Он беларуса знал природу.
Когда запахло керосином,
Настропаленный им народ
Помог доверием ослиным
Ему свершить переворот.
Разбив противников умело
И сделав ставку на цинизм,
Он взялся за "святое" дело -
Построить свой социализм,
Такой как в Северной Корее -
Что может быть того мудрее?
В ряд Сталин, Гитлер, Ким Ир Сен
Войдет достойный новый член.
Чтобы раскрутить судьбы спираль,
Свою стал строить вертикаль
Назначил пасечников верных,
Указом отменил закон,
Достичь вершин неимоверных
В подъёме жизни клялся он.
Чтоб разрешить проблемы разом,
Жить стали сразу по указам.
Бежало время день за днём,
Успехов не было ни в чём.
Народ роптал и возмущался,
Но перед хамом преклонялся.
Всё было гладко на бумаге,
Забыл он только про овраги,
Потом забыл про обещанья -
Настало время выжиданья
Если колхозник балом правит,
Не жди что он страну прославит.
Где правит хамская натура,
Там может быть лишь диктатура

3

Обнедав быстро Беларусь,
Все чаще стал глядеть на Русь.
Там золотые купола
Его завидный глаз слепили.
Звонили там колокола
И звуки их себе манили.
Там есть простор где развернуться,
Душой и телом "оттянутся",
И есть огромной силы мечь,
Чтоб гидре голову отсечь.
И мог ли спать спокойно он,
Один и тот же видя сон?
Вот так в момент душевной смуты
Однажды черт его попутал
В день единения в запарке,
За дружбу выпивши по чарке
И под Кремлёвский перезвон,
Глаз положил на царский трон.
Как будто клюнул в жопу гусь -
Бери , седлай матушку Русь!
Тогда задумал пчеловод
Конём еврейский сделать ход.
Из десяти мильёнов спин,
Соорудив себе трамплин,
Он взял стремительный разгон
С вершины белорусской горки,
Чтоб прыгнуть на российский трон
Когда уйдёт эпоха Борьки.
На Кремль он лыжи навострил.
И не жалеет средств и сил,
Чтоб быть всегда в отличной форме,
Он каждый день дает по норме -
На лыжах постоянно ходит
И много скварки переводит.

На день раз семь и больше даже
Он скваркой лыжи свои мажет,
Прыжок готовясь совершить,
Чтоб возле трона первым быть,
Не потому ль свиного сала
У нас осталося так мало?

4

Меж делом высморкавши нос,
И спрятав лысину под челку,
Летит в какой-нибудь колхоз
Порядок наводить метелкой,
Имеет он в себе задатки.
Чтоб устранять все недостатки -
Хозяйство все перевернуть,
Под зад кобыле заглянуть,
Чтоб все проверить без оглядок
И чтобы был везде порядок,
Начальникам намылить холку,
И за соски подергать тёлку,
И накрутить бычкам хвосты,
И пожалеть коров голодных,
И получить за все труды
Любовь широких масс народных.
Однако сколько он ни бьётся,
Народу лучше не живется
И скварка стоит в магазине,
Что не купить её отныне.
Пришли такие времена,
Что нету жизни нихрена.

5

А в это время пчеловод
Пугает Западом народ.
И чем народ живет беднее,
Тем выдумки его хитрее.
Для отпущения грехов
Есть у него запас козлов,
Чтоб из любой-какой беды
Сухим мог выйти из воды.
Неужто позабыл народ,
Что вора шапка выдает
Кто громче всех кричал про вора,
Тот оказался главный вор
Нужна ему с Европой ссора,
Чтоб ею свой прикрить позор.
И чтоб затеять передрягу,
Поет он старую бодягу
Товарищи я должен срочно
Сегодня вам сказать про то,
Что мне известно стало точно
Не уважает нас никто.
Дубину ядерную нам
Вернуть назад необходимо.
Пусть знает в мире каждый хам
Отпор дадим неотвратимо.
Вы ж видите как их приперло
Взять Белоруссию за горло.
Они нас думают учить,
Как нам на свете этом жить.
Так вот, пусть знают господа
Пусть будем нищими всегда,
Пусть щи хлебаем лаптем мы
Не надо нам от них взаймы.
Народ наш выбрал верный путь,
На Запад нас не повернуть
С жабрацкой торбой не пойдем,
В их сытый Европейский дом.
Народ мы накормить успеем,
Вопросы в мире есть важнее.

Чтоб мир устойчив был нам надо,
Чтобы опоры были две-
Одна нога должна быть в НАТО,
Вторая быть должна в Москве
Первейшая моя задача
Вторую ногу присобачить,
Чтоб мир стоял на двух ногах,
Иначе Беларуси крах
Одна опора уже есть,
Второй опоры нет давно,
А пчеловод кричит про честь,
Залезши по уши в говно.
Ему Чернобыльский урок
Никак не пригодится впрок.
Народу задурил мозги,
Завёл с Европой спор бесславный,
Но процветает без ноги
Великий кит - Китай державный.
И Индия его соседка
Живёт как добрая кокетка,
Амбиций мировых не зная,
Второй ногой быть не желая.
Так почему же белорусу
Устройство мира не по вкусу ?

6

Тут дело в нашем пчеловоде,
Что так печётся о народе.
Доходный этот мужичок,
Как бойкий племенной бычок.
Он черту душу свою продал,
В нем ничего святого нет
Он будет делать для народа
Под видом блага только вред.
Его указы - это пчёлы
Летят и в города и в сёла.
А его речи - это мед,
Которым кормит он народ.
Пообещав народу чарку,
А к чарке на закуску скаварку,
Обманом хитрым пчеловод
Подсунул вместо скварки мед,
Так, обдурив народ родимый,
Он власти укрепил мандат
И с той поры невыносимый
Идет от пчеловода смрад.
Когда он речь свою толкает,
Вокруг него говном воняет
В штаны, как будто, наложил
От напряжения всех сил.
И с каждым разом все ужасней
Говном воняют его басни
И тянет лямку он, как конь,
А толку нету - только вонь.
О людской такой породе
Говорят давно в народе:
Говно пчёлы, говно мёд,
Говно дядька пчеловод.
Пришла пора всему народу
Остановить идущий смрад
И дать такому пчеловоду
Хорошего пинка под зад.
Что для народа вышло боком,
То стать должно навек уроком.

***Центральный Комитет Бедноты***
***Республики Беларусь.***

# РАДУНЬСКАЕ ЖЫДОЎСТВА ДА ГАЛЯКОСТУ

## Паводле кнігі Адама Рагоўскага *(АбрашкеКівес)* *“Боль і Памяць”*

**Уступ**

Менавіта ў нас у Радуні, мястэчку на поўдзень ад Вільні, жыў знакаміты Гавіс Гайм, і тут ён напісаў многае з сваіх выдатных працаў, якія аказалі найвялікшае ўзьдзеяньне на габрэйскае рэлігійнае вучэньне. Усе жыды ў мястэчку былі цесна зьвязаны паміж сабой. Яны жылі як быццам пад адным дахам. Нішто – ні дрэннае, ні добрае – не магло датычыць кагосьці і застацца незаўважаным. Навіны й плёткі ва ўсіх падрабязнасьцях абляталі мястэчка з хуткасьцю маланкі.

Гледзячы на твары жыхароў Радуні, можна было б вызначыць, хто як зарабляе на хлеб, якое вядзе жыцьцё. Ня маючы паняцьця аб тым, што жыцьцё можа быць лягчэйшым ці лепшым, радуньскія жыды былі задаволены тымі малымі сродкамі для йснаваньня, якія здабываліся цяжкай працай, у поце на сваім твары, і пот гэты часьцей перамешваўся зь сьлязьмі. Большасьць лічыла такое жыцьцё нармальным. Мудрасьць і вопыт знайходзілі выражэньне ў гісторыях, анекдотах і жартах, якія нараджаліся ў майстэрнях, у сінагозе ці ў час выпадковых сустрэч на вуліцы. Гэта былі мірныя, сумленныя, простыя людзі.

**Маё мястэчка.**
**У нас у Радуні.**

Ці набліжаецеся Вы да нашага мястэчка Радуні з боку Ліды ці Вільні, ці проста задумалі пашпацыраваць па мястэчку, Вам у кожным разе кінуцца ў вочы два масты, перакінутыя праз вузенькую рэчаньку, якая дала назву мястэчку. Гэтыя масты з кароткіх і тоўстых бярвёнаў, з сырасьцю і мохам, выглядаюць так, быццам іх апранулі ў зялёныя шубачкі. Зьлева ад іх цягнецца зялёны луг з дывановым россыпам жоўтых палявых кветак. Гэта у асноўным, палеткі “пораца” – пана Носавіча. У маім уяўленьні гэтая рэчанька стае так рэчаісна, нібы я гляджу кіно. Бачу: у ёй плешчуца людзі, голыя, як створца Адам. Ламавыя брычнікі змываюць зь сябе і з сваіх коней пот, дарожны пыл і бруд убогіх канюшняў, дзе часам разам зь коньмі разьмяшчаюцца самі брычнікі і іх сем’і. Бліжэй да берага я бачу Грышу-рыбака – ён стаіць у вадзе ў мокрых падраных портках. Грышка лапае рыбу вудаю, больш падобнай на прывязанага да доўгага палена вядра, заграбаючы усялякую дробязь, якой не пашансавала папасьціся. Разам зь ім тарчыць у вадзе пацан з доўгім паленам, да якога прыкручаны відэлец, і жадае загарпнуць рыбінку, што слабейшая і лянівейшая.

У летнюю пару рачныя берагі зарасталі буйной муравой, прыземістым хмызняком і зьлючымі рапейнікамі. Там і сям у берага калыхалася раска, у якой знайходзіліся жабы, чыё гучнае кваканьне грымела на ўсё мястэчка. І ўжо вядома стаячая вада выдатна садзейнічала развядзеньню камар’я, якое вілося тут хмарамі.

Доўгая галоўная вуліца перасякала ўсё мястэчка. Яна складалася зь дзьвюх частак – “Верхняй” і “Ніжняй”. “Верхняя” вяла да Горадні, а “Ніжняя” – да Вільні, Ліды. Па галоўнай вуліцы, абапал адной збочыны цягнуўся раўчак, адзінае каналізацыйнае збудаваньне ў Радуні. Вырыты ў даўнейшыя часы, ён ня разу ня чысьціўся і ўвесь аброс блакітным і жоўтым пустазельлем, быццам наўмысна пасаджаным, каб радаваць вока яскравай расфарбоўкай.

Увесь транспарт, які б не існаваў у Радуні, рухаўся па гэтай вуліцы. Яна была выкладзена дрэнна ўкладзеным каменьнем сялянскія вазы каціліся па вуліцы, з жахам бухаючы коламі. Часам мільгацелі воз ці грузавік, які вёз праз мястэчка тавары. Нізкія, крывабокія хаткі, іншыя напаўгнілыя, накрытыя дранкаю ці саломаю, цягнуліся па абодва бакі вуліцы. Пападаліся хатачкі, падпёртыя драўлянымі слупамі, каб, не дай Бог, не разваліцца, акенцы былі маленькімі, часьценька зашкляненыя дробнымі, якісьці склеенымі рэшткамі шкла; іншыя былі забітымі дошкамі, лістамі жэсьці ці проста заткнутыя рагожаю – яскравае сьведчаньне ўзроўня жыцьця радуньскіх жыхароў.

У цэнтры мястэчка, на ўзгорку, дзе разьмяшчаецца кірмаш, усё выглядала йнакш. Тут і дамы былі мацнейшымі, утульнейшымі, ды й вышэйшымі. Да ўваходных дзьвярэй вяло некалькі ступенькаў. Некаторыя нават упрыгожваліся рознымі аздобамі. Надвячоркам маладзенькія жыдоўскія дзяўчыны (жыдовачкі) сядзелі на ганках, давяраючы адна адной дзявочыя таямніцы і напяваючы песьні (што кранаюць душу) пра каханьне і пагрозы.

Большасьць радуньскіх жыдоў былі беднотай, аднак ніколі ня бачыўшы лепшага жыцьця, бядноты не саромеліся, але й прычынаў для гонару ў ёй ня ўгледжвалі. Яны як быццам зусім не зьвярталі ўвагі на тое, што ўсю нядзелю не было чаго есьці, затое вельмі й вельмі ганарыліся, што маглі на славу паесьці ў суботу.

Што праўда: трэба было паглядзець, якая мітусьня і вэрхал панавалі ў Радуні перад суботамі. З усіх канцоў мястэчка сьцякаліся гаспадыні, зьгінаючыся пад цяжкасьцю гаршкоў з чоўнтам. Чоўнт, прыгатаваны з бульбы, фасолі і тлустага мяса, елі па суботах круглы год. Вяршыняй годнасьці чоўнту была “кішке” – кішка ці курыная шыйка, што ўвабрала ў сябе ўсё, што заставалася дома пасьля цэлага тыдня. Гаршкі з чоўнтам валаклі да Мейшкі – пекара. Кожны стараўся зьявіцца першым, паколькі прэшыя гаршкі засоўваліся ў самую глыбіню печкі, у найбольш гарачую частку, дзе бульба сапраўды паружавее, і ласунак ужо напэўна будзе тапнець у роце…

Радунь ганарылася тым, што яна была родным местам Рабі Срайла (Ізраіля) Мэера Кагана, таго самага “Гавіс Гайма”, які прынёс мястэчку славу й сусьветную вядомасьць. Яго ўзьдзеяньне на розум не зьмяншалася нават пасьля яго сьмерці. Глыбокі мараліст, ён стаў узорам дабрадзеяньня і веры для тысячаў габрэяў. Рабі Мэер заснаваў таварыства дапамогі хворым і безмаёмасным. Ён усім на падсьвядомасьці даваў веру ў тое, што зло пройдзе, што на зьмену бядзе прыйдзе ўдача, і таму, ня гледзячы не на што, ніколі нельга траціць надзею.

Ён сядзеў зь беднымі рамесьнікамі і іншымі працоўнымі людам у местачковай сінагозе, дапамагаючы ім у вывучэньні рэлігійных трактатаў і абмяркоўваючы свае павучэньні аб сэнсе й вобразе жыцьця. Слухаючы Срайля Мэера сьхіляліся перад ім, саграваючыся ў праменьнях яго духоўнага сьвету. Але будучы чалавекам сьціплым і ў гармоніі са сьветам, Рабі мэер ніколі не жадаў выдзяляцца. Многія яго пасьлядоўнікі гатовыя былі адмовіцца ад настолькі неабходнага дзённага заробку дзеля таго, каб проста пасядзець каля яго і паслухаць мудрыя прамовы. Ён вучыў, што годнасьць чалавека вымяраецца не яго матэрыяльным дастаткам, а духоўным багацьцем і дабрачыннасьцю ў адносінах да іншых людзей. Вучэньне Срайля Мэера Кагана дало яго пасьлядоўнікам магчымасьць набыць мужнасьць і пераҗыць самыя цяжкія часы.

Рабі Срайль Мэер меў матэрыяльныя цяжкасьці. Становішча трошкі зьмянілася толькі пасьля публікацыяў яго кніг, што прынесьлі яму адчувальны прыбытак. Да тых часоў ён якасьці перабіваўся дзякуючы маленькай бакалейнай лавачцы, дзе прадавалася толькі самае неабходнае. Гэта лавачка была вясельным падарункам яго тэсьця. Ня маючы вялікай надзеі на здольнасьці жонкі ў рахунках, узважаньні і адмярэньні, Рабі Срайль Мэер адрываўся ад сваіх заняткаў, каб паглядзець за справамі ў лаўцы. Больш за ўсё ён турбаваўся, каб ратуй Бог, не абчысьціць пакупніка.

Няйбяднейшыя жанчыны мястэчка сланяліся каля лаўкі ў чаканьні прыйсьця Рабі Срайля Мэера. Ён дабра ведаў і іх, і іх праблемы. Ніхто ў мястэчку ня мог зрабіць таямніцаю ад яго свае турботы. Таму жанчыны былі ўпэўнены, што, купляючы ў яго, атрымаюць яшчэ й давагу, а заплацяць трошкі ніжэй кошту. Лёгка зразумець, што пры такім вядзеньні спраў паліцы хутка спусташаліся, а грошаў, каб зноў запоўніць іх таварамі, не ставала. Лаўку прыйшлося зачыніць. Сумны гэта быў дзень для Радуньскай бядноты!

Рабі Срайлю Мэеру было трыццаць год, калі ўпершыню выйшла яго кніга “Гавіс Гайм” (“Маральная істота”). Яна была шырока распаўсюджана і выклікала вялікі рэзананс. Кніга стала настольнай папулярнаю сярод дабрамаральных габрэяў, што ймя аўтара амаль запамяталася,



Юзаф Кірвель (Намесьнік старшыні Саюза палякаў Беларусі, адказны па сувязях з мас-мэдыя)

# ГАЛОЎНАЕ – НЯ БЫЦЬ МАНКУРТАМІ!

***- Што ўяўляе сабой Саюз палякаў Беларусі на Вараноўшчыне?***

- Колькасьць сяброў – каля 1230 асобаў. Першасныя суполкі ёсьць амаль ва ўсіх вёсках, цэнтрах сельсаветаў, а таксама буйных і сярэдніх. Не стварылі пакуль суполкі ў Паляцкішках, Пераганцах і Казакоўшчыне. Прымаем усе магчымыя захады дзеля іх стварэньня.

***- А што з рэгістрацыяй?***

- Прайшлі рэгістрацыю на раённым узроўні (Раённы Аддзел СПБ). Пададзены дакументы на рэгістрацыю Радуньскага, Забалацкага, Паляцкіскага і Канвеліскага аддзелаў СПБ. Ня хочуць рэгістраваць, таму што няма сядзібаў. Аднак, паводле інфармацыі Міністэрства Юстыцыі Беларусі, дадзены чыньнік ня йграе вырашальнай ролі. Можна нават мець сядзібы ў прыватных будынках.

***- Якія мерапрыемствы ў мінулым годзе найбольш запамяталіся?***

- Найбуйнейшым мерапрыемствам (на мой погляд) быў Фэст польскай песьні ў Радуні (міжраённы) ў жніўні. Далей – адзначэньне дзесятых угодкаў утварэньня Радуньскага Аддзелу СПБ. Гурт "Пшыяцюлка" у чэрвені прымаў удзел у Міжраённым фальклёрным фэсьце ў Вангажве (Польшча). У польскіх летніках бавілі час нашы дзеці.

***- Што плянуеце на бягучы год?***

- Галоўная задача – правесьці справаздачна – выбарчыя сходы (распрацаваны графік), завяршыць улік сябраў, каб у кожнага нашага сябра былі ўліковая картка і пасьведчаньне. На 2000 год у раёне выпісаны 552 асобнікі газэты "Glos znad niemna". Наша мэта – кожнай польскай сям'і па асобніку польскай газэты.

***- Ці часта сябры СПБ з Вараноўшчыны й Радуньшчыны пішуць "Glos znad Niemna" і хто менавіта?***

- Часта. Пісалі: Павел Орлік (Варанова), Пётр Кузьміч (Забалаць), Рычард Грышко (Беняконі). Нядаўна зьявіўся артыкул Галіны Булгак зь інфармацыяй аб гурце "Пшыцюлка".

***- Як справы з вывучэньнем польскай мовы?***

- Амаль што ва ўсіх школах раёну польская мова вывучаецца як навучальны прадмет, факультатыў і гурток. Ставім задачу – каб бацькі ў Больціскай і Тракельскай сярэдніх школах напісалі заявы на вывучэньне польскай мовы, а таксама ў дзіцячых садках Варанова і Радуні. Калі ў Варанове дзеці будуць вывучаць польскую мову як прадмет, або адчыняцца адзін-два польскамоўныя клясы з вывучэньнем усіх прадметаў на польскай мове – сусьветная палёнія рэпрэзэнтуе праект і ўкладзе сродкі на будаўніцтва польскай сярэдняй школы ў райцэнтры. Патрэбна толькі згода ўлад. Гэта школа будзе працаваць у сыстэме адукацыі Рэспублікі Беларусь, аналягічна як у Горадні й Ваўкавыску.

***- Працуеце ў гэтым накірунку?***

- Вядзецца мэтанакіраваная работа ў Варанове з бацькамі будучых вучняў падрыхтоўчага кляса, і, нават, плянуецца экскурсія дзетак з бацькамі ў Гарадзенскую польскую сярэднюю школу, дзеля таго. каб бацькі й дзеткі пазнаёміліся з ходам навучальна-выхаваўчага працэсу. Гэткім чынам мы разгрузім Вараноўскую сярэднюю школу.

***- Якія пэрспэктывы зь сядзібай?***

- Павел Орлік паведаміў, што дырэктар кінатэатру "Колас" (Варанова) сп.Генадзь Салавей выдзяліў памяшканьне (пакой) СПБ за арэндную плату. Аб чым пісала газэта "Глос знад Немна".

***- Як справы з будаўніцтвам сядзіба (сядзібаў)?***

- Чаму не будуецца сядзіба, залежыць ад абласнога кіраўніцтва. Добра б было, каб "Дом паляка" быў збудаваны ў Варанове і ў Радуні. Максімальная ж наша задача ў дадзеным кірунку – мець памяшканьні ва ўсіх цэнтрах сельсаветаў, апаратыўную сувязь. Паколькі па-апошняму перапісу насельніцтва ў Вараноўскім раёне колькасьць палякаў дасягла васьмідзесяці васьмі адсоткаў, адсюль – кіраўнікі сельскіх саветаў могуць выдзеліць памяшканьне, паколькі палякі - падаткаплацельшчыкі.

***- Ці можна стварыць раённае польскае пэрыядычнае выданьне?***

- Яшчэ не задумліваліся. Пакуль гэта далёкая будучыня. Калі займеем школу, сядзібу, сталыя асяродкі, апаратыўную сувязь, тады задумаемся аб выпуску такога выданьня.

***- Наколькі часта прыяжджаюць госьці з Польшчы.***

- У апошні час шкада, што адносна рэдка. З Вангажэва былі два гады таму дырэктар і супрацоўнікі музэю. Цікавіліся польскай культуры: рушнікамі, дыванамі, вопраткай, абуткам, увогуле этнаграфіяй.

Кожны год студэнты Катэдры этналёгіі й культуровай антрапалёгіі Варшаўскага Унівэрсітэту на чале з пані Аннай Энгэлькінг дасьледуюць этнасы й этнапрацэсы нашага краю.

***- Каго можна адзначыць: аддзелы, кіраўнікі, шэрагоўцы?***

- Беняконьскі аддзел (кіраўнік пан Рычырд Грышко), Забалацкі аддзел (кіраўнік Пётр Кузьміч), Канвеліскі аддзел (кіраўнік Браніслаў Чапля). Шэраговыя: Галіна Ненартовіч (настаўніца польскай мовы з Вараноўскай сярэдняй школы), Марыя Садоўская (настаўніца польскай мовы ў Доціскай базавай школе), Альфрэда Малахоўская (Радуньская СШ №1), Марыя Тамкевіч (Радуньская СШ №2), Галіна Булгак (Радуньскі Дом Культуры).

***- Якая сытуацыя ўнутры СПБ? Ці чакаюцца нейкія падзелы й расколы?***

- Нармальная! Ніякіх падзелаў і расколаў не чакаецца!

***- Што Вы пажадаеце ўсім жыхарам Вараноўшчыны й Радуньшчыны?***

- Здароўя! Шчасьця! Галоўнае – ня быць манкуртамі! У наш час не зважаючы на ўсялякія цяжкасьці усё больш і больш увагі надаваць Адраджэньню!

***- Шчыра дзякуем за гутарку!***

- Узаемна!

Як паведаміў Старшыня Раённага Аддзелу Саюзу палякаў Беларусі, колькасьць вучняў, якія вывучаюць польскую мову: 1915, у т.л. як навучальны прадмет 333 ў Вараноўскай СШ, Радуньскіх СШ №1 і СШ №2 ( у сярэднім чатыры-пяць урокаў на тыдзень), Забалацкай СШ, Канвеліскай СШ, Пашкавіцкай БШ, Асіпоўскай БШ, Ёткінскай БШ, Доціскай БШ. Больш таго, польскую мову на факультатыве вывучаюць 1389 вучняў, а ў гутарках – 193 вучні.

Дабрачынна надрукавана ў «Ратушы» пры падтрымцы фонда «Альянс Каунтэрпарт»,Камісіі па Дэмакратыі Амбасады ЗША на Беларусі і Нацыянальнага Фонду на карысць дэмакратыі (ЗША).

Укладальнік Віталь Куплевіч
Газэта друкуецца клясычным беларускім правапісам Браніслава Тарашкевіча.

Аўтары цалкам адказныя за праўдзівасць і дакладнасць дасланай інфармацыі.

Газэта распаўсюджваецца бясплатна.
Наклад 299 асобнікаў.